

З Вялікаднем!


# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

2 красавіка 2021 года №14 (1353)

18+






Якую працу прапануюць у рэгіёне

старонка 3

Шукаюць настаўнікаў для школ у рэгіёнах. Ім аплацяць стыпендыю і жыллё

старонка 5

# «Пабачыўшы працу калег у Германії, нашы настаўнікі музыкі атрымалі б культурны шок»




Ураджэнец Вілейшчыны Віталь Алексяёнак, які працуе дырыжорам аркестра Мюнхенскага ўніверсітэта, выдаў кнігу пра беларускія пратэсты

старонка 18

Фота забяспечанае Віталём АЛЕКСЯЁНКАМ.

ISSN 1991–7155

Адсканаваўце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

## Правядуць раённы этап конкурсу прыгажосці

**ВІЛЕЙКА**

Пакуль дата мерапрыемства – 22 красавіка. Аднак, як адзначылі ў Палацы культуры, дата арыенціровачная, можа змяніцца.

Раённы тур пройдзе ў рамках конкурсу прыгажосці «Міс Беларусь».

Да кандыдатак ёсць пэўныя патрабаванні: беларускае грамадзянства і пастаяннае пражыванне на Міншчыне, узрост – ад 18 да 24 год, рост – не ніжэй за 174 сантыметры, без тату і пірсінгу. Таксама ўдзельніцы не павінны быць у шлюбе і мець дзяцей.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ад 1 красавіка мяняецца расклад аўтобуса «Вілейка-Мінск» праз Ждановічы

**ВІЛЕЙКА**

Як паведамілі ў аўтапарку №5, ад 1 красавіка мяняецца расклад руху аўтобуса па маршруце Вілейка-Мінск праз Ждановічы.

Час адпраўлення мяняецца з 6:10 на 5:50 – з аўтавакзала; і з 6:00 на 5:40 – з вуліцы Валынца. Ёсць і яшчэ адно змяненне. Цяпер гэты аўтобус не будзе збіраць пасажыраў па горадзе.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гаспадарка ў Чурлёнах пакуль без кіраўніка

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта паведамілі ў аддзеле кадравай работы Вілейскага райвыканкама.

**Леанід Холад**, які кіраваў ЗАТ «Чурлёны», застаўся працаваць у гаспадарцы на пасадзе агранома. Кіраўніком ён быў ад 1 красавіка 2020 года. Хто будзе кіраваць гаспадаркай, стане вядома пазней.

ЗАТ «Чурлёны» займаецца мясной і малочнай жывёлагадоўляй, вырошчвае збожжа, бульбу, рапс.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Надыходзіць вясновая забарона на рыбалку

Ад 1 красавіка ў Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях усталёўваецца агульная забарона на лоўлю ўсіх відаў рыбы. Забарона прадоўжыцца да 30 мая.

Падчас нераставай забароны аматарскае рыбалоўства цалкам не забароненае, але абмежаванае: рыбачыць можна ў светлы час толькі адной вудай з адным кручком або адным спінінгам са штучнай прынадай, з адным адзінарным або падвойным, або трайным кручком з берага (без заходу ў ваду), альбо з лёду, са штучных збудаванняў.

Напрыклад, з мураў і масткоў лавіць можна, калі яны з'яўляюцца працягам берага. А вось з астравоў і любых збудаванняў, размешчаных у вадзе, аматарскае рыбалоўства забараняецца.

Ужыванне любых іншых прылад або спосабаў лоўлі падчас забароны кваліфікуецца як парушэнне і цягне штраф ад 290 да 870 рублёў.

За вылаўленую незаконным спосабам рыбу парушальнік абавязаны пакрыць шкоду, якая ў нераст налічваецца ў трайным памеры.

Падчас забароны грамадзянам нельга карыстацца маламернымі суднамі як для рыбалоўства, так і для іншых мэт. Тэрміны агульнай вясновай забароны перасякаюцца з нераставымі, усталяванымі асобна на некаторыя віды рыбы – шчупака і судака. Да 15 красавіка працягваецца забарона на лоўлю шчупака, а ад 15 красавіка да 30 мая нельга будзе лавіць судака. Таму гэтых рыб неабходна адпусціць назад у вадаём.

Таксама ў нераставы перыяд нельга лавіць рака вузкапалага.

Кругласутачны нумар тэлефона даверу інспекцыі: (801592) 44074.

**Дзяніс ЧАРТОВІЧ,**
**намеснік начальніка Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## Правялі агульнагарадскі Крыжовы шлях за Беларусь

**СМАРГОНЬ**

У суботу, 27 сакавіка, у Смаргоні вернікі абедзвюх каталіцкіх парафій горада разам са святарамі прайшлі па вуліцах Крыжовым шляхам, молячыся за Беларусь.

Працэсія, у якой прадстаўнікі розных касцельных груп і супольнасцяў па чарзе неслі вялізны пакутны крыж, рушыла ад старажытнай святыні, якая носіць тытул нябеснага апекуна касцёла ў Беларусі святога арханёла Міхала. Наперадзе працэсіі ішлі міністранты з запаленымі паходнямі, за крыжам — святары і сотні вернікаў рознага ўзросту.

**Паводле catholic.by**




Фота live-in-poland.com

**Гаспадары курсаў гатовыя перадаць у пракуратуру вучэбныя праграмы, але не асабістыя дадзеныя навучэнцаў і выкладчыкаў.**

# «Аказаліся пад пагрозай нашы навучэнцы»

## У моўных курсаў пракурор просіць звесткі пра тых, хто вывучае і выкладае польскую мову

**25 сакавіка гаспадыня цэнтра моўных паслуг «Акадэмія» смаргонка Вольга Будай атрымала ліст ад раённай пракуратуры. У ім у сувязі з узніклай неабходнасцю пракуратура просіць цэнтр падаць пэўныя звесткі пра тых, хто вывучае і выкладае тут польскую мову ў перыяд ад 1 верасня 2020 года да 24 сакавіка 2021 года.**

**СМАРГОНЬ**

А менавіта – анкетныя дадзеныя выкладчыкаў; спіс асоб, у тым ліку непаўналетніх, якія вывучаюць польскую мову; парадак аплаты і копіі плацежных дакументаў; копіі адукацыйных праграм.

Мы звязаліся з Вольгай Будай. Вось як яна пракаментавала сітуацыю:

– Мы разумеем, што такі запыт ад пракуратуры, хутчэй за ўсё, звязаны з пераследам Саюза палякаў у Беларусі. Нават дата ліста – 25 сакавіка – кажа пра гэта. Бо 24 сакавіка быў суд над **Анжалікай Борыс**, кіраўніком Саюза палякаў у Беларусі, і яна атрымала 15 сутак. Ведаю, што ўжо былі праверкі і ў іншых моўных школах, дзе вывучаюць польскую.

Хацела б падкрэсліць, што наша школа – гэта прыватны лакальны праект для Смаргоні. Тут навучаюць не толькі польскай, але і англійскай, і нямецкай мовам. І да Саюза палякаў мы ніяк не прывязаныя.

Вольга мяркуе, што цяпер будуць правяраць усе школы і курсы, дзе вывучаюць польскую. А такую паслугу ў Смаргоні выконвае менавіта яе цэнтр.

Суразмоўца кажа, што ліст з пракуратуры, хутчэй за ўсё, не звязаны з яе грамадзянскай пазіцыяй, хаця і не выключае гэтага.

– Мы, канешне, можам перадаць на азнаямленне ў пракуратуру нашу адукацыйную праграму, але перадаваць асабістыя дадзеныя – імёны, прозвішчы, усё, што датычыцца аплаты, – гэта ўжо зусім іншае. Супраць нас не ўзбуджана ніякай справы. І на падставе чаго мы павінны перадаваць такія дадзеныя? – працягвае Вольга.

І дадае, што цэнтр разам з юрыстамі цяпер рыхтуе адказ у пракуратуру, дзе тлумачыць, чаму не будзе перадаваць асабістыя дадзеныя людзей.

– Мы адкрыліся ў 2019 годзе. Ад гэтага часу карыстаемся папулярнасцю і вельмі даражым сваёй рэпутацыяй.

А цяпер у сувязі з гэтым запытам аказаліся пад пагрозай навучэнцы курсаў, якія даверыліся нам. А гэта наша галоўная каштоўнасць, – падсумавала жанчына.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Масла ад прадпрыемства «Бел-Мол» забаранілі прадаваць у Беларусі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пра гэта паведамляе сайт gosstandart.gov.by. Топленае і вяршковае масла нібыта з Маладзечна заўважылі ў Баранавічах.**




Фота з сайта Дзяржстандарту.

**Масла, якое нібыта выпускаюць у Маладзечне.**

Нагадаем, што пра гэтыя прадукты мы пісалі ў 2019 годзе, калі пад выглядам якаснай беларускай «малочкі» масла «Бел-Мол» прадавалася ў Саратаве. Тады карэспандэнт звязаўся з прадпрыемствам па адрасе: Нагорная, 7 у Маладзечне. Прадпрыемствам аказаўся ААТ «Маладзечанскі малочны камбінат». Як паведамілі ў прыёмнай, «Бел-Мола» ніколі тут не існавала і такую прадукцыю не выпускалі.

Спецыялісты высветлілі, што масла не адпавядае стандартам. Цяпер дзяржстандарт забараніў уводзіць і прадаваць у Беларусі не толькі масла, а ўсе прадукты ад прадпрыемства «Бел-Мол». Інфармацыю накіравалі ў дзяржаўныя міністэрствы і ведамствы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Адзін з самых высокіх заробкаў прапануюць трактарысту-машыністу, які прыйдзе ў Маладзечанскі райаграсэрвіс, каб працаваць у Маркаве.

# Дзе ў рэгіёне можна атрымаць тысячу, а дзе нават 1200

## Аглядаем прапановы працы і заробкаў

**Паглядзіце, якія прапановы для тых, хто шукае працу ў рэгіёне, з'явіліся за апошні тыдзень на сайце Дзяржаўнай службы занятасці. Сёння разглядаем прапановы з Вілейкі, Маладзечна, Валожына і Мядзела.**

### Вілейка: Найбольш прапануюць галоўнаму бухгалтару на «Буддэталях»

Мясцовая раённая газета шукае фотакарэспандэнта, карэспандэнта і карэктара. Заробак кожнаму – ад 400 рублёў. На «Буддэталі» патрэбны галоўны бухгалтар. Абяцаюць ад тысячы рублёў. Электраманцёру там жа – ад 660. Крыху менш, ад 600, абяцаюць грузчыку ў «Еўраопце».

Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр шукае некалькі сацработнікаў – па Ільянскім, Хаценчыцкім, Іжанскім сельсаветах. Заробак – ад 400 рублёў. Шмат прапаноў ад аўтапарка №5. Патрэбныя кіроўцы, кандуктары, кладаўшчык, начальнік рамонтнай майстэрні. Найвышэйшы заробак у апошняга – ад 912 рублёў. Ад 600 абяцаюць кандуктарам, ад 600 да 800 – кіроўцам.

Аддзел адукацыі Вілейскага райвыканкама шукае прыбіральшчыка і шэф-повара. Заробкі – ад 400 і ад 600 рублёў адпаведна.

У аддзел культуры, ідэалогіі і па справах моладзі возьмуць галоўнага спецыяліста з вышэйшай адукацыяй. Заробак – ад 432 рублёў. Ляснік у Вілейскім доследным лясгасе атрымае ад 750.

### Маладзечна: Трактарысту нават больш, чым галоўнаму бухгалтару на «Буддэталях»

Прыватны прадпрымальнік шукае прадаўца і кіроўцу з выкананнем абавязкаў грузчыка ў гандлёвы павільён у Заслаўі. Абодвум абяцае па 1500. Таксама шмат вакансій у гандлі ад сеткі «Дабраном» і «Еўрагандаль». У «Дабраном» патрэбныя кухонны рабочы, касір-кантралёр, загадчык аддзела, прыбіральшчык. Найбольшы заробак у загадчыка аддзела – ад 750, найменшы ў прыбіральшчыка – ад 450. Падобны набор вакансій і ў «Еўрагандалі». Да пераліку дадаецца ахоўнік з заробкам ад 600 рублёў.

Маладзечанскі райаграсэрвіс шукае трактарыста-машыніста для працы ў гаспадарцы ў Маркаве. Пазначаюць, што патрэбны досвед працы і магчымая дастаўка да месца. Заробак – ад 1200. У гэту ж гаспадарку райаграсэрвіс возьме аператара машыннага даення і кіроўцу аўтамабіля. Кіроўцу абяцаюць ад 530, аператару – ад 850.

На 0,56 стаўкі філіял РУП «Белпошта» возьме аператараў сувязі. Заробак – ад 304 рублёў. Сюды ж патрэбныя паштальён і начальнік. Заробкі ад 542 і 918 рублёў адпаведна.

Маладзечанскі дзяржаўны каледж шукае кіроўцу аўтамабіля. Заробак – ад 400 рублёў. З патрабаванняў – тры гады без парушэнняў правілаў дарожнага руху. У гэту навучальную ўстанову патрэбны і выкладчык спецдысцыплін з вышэйшай радыётэхнічнай адукацыяй і досведам працы не меншым за два гады. Заробак – ад 400 рублёў. Возьмуць сюды і педагога-арганізатара з такім жа заробкам.

Маладзечанскі цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва на паўстаўкі возьме медсястру на дзяжурствы – суткі праз двое. Заробак за паўстаўкі – 200 рублёў. Тут жа патрэбны сацработнік па Радашкавіцкім сельсавеце. Заробак – ад 400.

У гарадскую СШ №2 патрэбны повар, заробак – ад 400 рублёў. У лакаматыўнае дэпо – начальнік. Заробак – ад 1250.

Кіроўца на ПМК-32 атрымае ад 500. Па столькі ж – слесар-рамонтнік і электрагазазваршчык, якія прыйдуць працаваць на «Энву».

На паўстаўкі шукаюць бібліятэкара ў бібліятэку імя Максіма Багдановіча. Патрэбная профільная адукацыя. Заробак на паўстаўкі – ад 220. Сюды ж на стаўку возьмуць сталяра. Заробак – ад 450.

У дзіцячыя садкі горада патрэбныя педагог-псіхолаг, повары, выхавальнікі, памочнікі выхавальнікаў. Заробкі – ад 400 да 650.

У аптэку №63 возьмуць фармацэўта, правізара і загадчыка. Заробак – ад тысячы. А загадчыку – ад 1100.

### Валожын: Найбольш атрымае выкладчык у ліцэі

У Валожынскую ЖКГ шукаюць слесара па абслугоўванні цеплавых сетак. Заробак – ад 650. Прадпрыемства «Аблкаапгандаль» на паўстаўкі возьме байца жывёлы. Заробак – ад 300 рублёў. Ад 600 рублёў прапануюць юрысконсульту, які прыйдзе працаваць у Валожынскі сельскагаспадарчы ліцэй, ад 700 – выкладчыку.

У гандлі – традыцыйны пералік вакансій «Дабранома» і «Еўрагандлю» з заробкамі ад 650 да 850. І на гэтым усё.

### Мядзел: Рэкардсмен па прапановах – ЦРБ

Тут шмат прапаноў для тых, хто хоча працаваць у медыцыне. Санітаркі, дактары-спецыялісты, лабаранты, медсёстры, памочнікі дактароў патрэбныя ў Мядзельскай ЦРБ. Найменш – ад 403 – прапануюць санітарцы, найбольш – ад 720 – аднаму з дактароў.

У мясцовае ДЭУ возьмуць дарожнага рабочага. Прапануюць ад 400. Столькі жывёлаводу і слесару па рамонце абсталявання ў «Мядзелаграсэрвісе». І апошнія з вакансій, што з'явіліся за тыдзень, – кіроўца пагрузчыка і юрысконсульт. Абедзве прапановы – ад ДРБУ-133. Заробкі – ад 550 і ад 600 адпаведна.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.03 | 1.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6272 | **2.6231** |
| Еўра | 3.1082 | **3.0789** |
| Злоты, 10 | 6.7193 | **6.5974** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4512 | **3.4694** |
| Грыўня, 100 | 9.4253 | **9.4196** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **24.03** | **1.04** |
| Еўра | 3.0800/3.1500 | **3.0500/3.1200** |
| Долар ЗША | 2.6000/2.6550 | **2.6000/2.6500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 24.03 | 31.03 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,99 | **23,99** |
| Куранія-бройлер, 1 кг | 3,50 | **4,35** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,76** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **8,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,00 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **5,20** |
| Селядзец, 1 кг | 6,80 | **5,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,30** |
| Алей, 1 л | 4,00 | **4,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,60 | **2,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **4,00** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,30** |
| Капуста, 1 кг | 0,75 | **1,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 4,95 | **4,90** |
| Памідоры чэры, 1 кг | 7,90 | **7,80** |
| Перац, 1 кг | 7,80 | **7,00** |
| Радыс, 1 кг | – | **7,00** |
| Салата, пучок | 0,50 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля-сявок, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **4,00** |
| Бананы, 1 кг | 2,90 | **3,00** |
| Вінаград, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Гранат, 1 кг | 6,50 | **6,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | **6,00** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,00** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **4,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Затрымалі таксіста, у машыне якога быў бел-чырвона-белы сцяжок

**МАЛАДЗЕЧНА**

Затрыманне адбылося 26 сакавіка каля 14 гадзін.

Як паведамлялі відавочцы, міліцэйскі аўтамабіль перагарадзіў таксі дарогу ў раёне пуцеправода, неўзабаве прыехалі супрацоўнікі ДАІ. Інспектары склалі пратаколы і далі папярэджанне. Пасля патрульны аўтамабіль адвёз яго ў РАУС.

**Аддзел інфармацыі.**

## Затрымалі дзесяць футбольных фанатаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Жыхароў Маладзечанскага раёна ад 18 да 42 гадоў вылічылі работнікі ГУБАЗіК МУС і мясцовага крымінальнага вышуку. Усе затрыманыя – актыўныя ўдзельнікі каляфутбольнага фанацкага руху.

Па версіі МУС, вечарам 9 жніўня ў Маладзечне яны ўдзельнічалі ў пратэстах на Цэнтральнай плошчы горада: станавіліся ў счэпку і не рэагавалі на неаднаразовыя папярэджанні пакінуць несанкцыянаванае масавае мерапрыемства.

Следчыя далі прававую ацэнку дзеянням затрыманых і прызналі іх падазраванымі па крымінальнай справе аб арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, ці ўдзеле ў іх. Усіх затрыманых змясцілі ў ІЧУ.

**Паводле МУС.**

## Ноччу абакралі гараж. Фігуранта знайшлі

**ВІЛЕЙКА**

24 сакавіка падчас вышуковых мерапрыемстваў работнікі крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС знайшлі 35-гадовага вілейчука, які падазраецца ў крадзяжы з гаража ў ноч з 12 на 13 сакавіка.

– Раніцай 13 сакавіка ў міліцыю звярнуўся жыхар Вілейкі і паведаміў, што нехта абакраў яго гараж на вуліцы Валынца. Забралі чамадан з наборам ключоў, ручны дамкрат, абцугі, малаток, дзве новыя шаравыя апоры для аўтамабіля, а таксама з салона машыны – флэш-карту і скураны мужчынскі партаманет. Шкода склала каля 96 рублёў, – расказаў падрабязнасці здарэння намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Калі 24 сакавіка міліцыя знайшла падазраванага, той прызнаўся ў злачынстве. Частку скрадзенага вярнулі ўладальніку. А некаторыя рэчы фігурант паспеў прадаць.

Мужчыну будуць судзіць па частцы 2 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса. Па ім фігуранту пагражае штраф або папраўчыя работы да двух гадоў, або арышт, або абмежаванне ці пазбаўленне волі да чатырох гадоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На пераходзе, што на вуліцы Хмяльніцкага, аўтамабіль збіў пешахода

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя здарылася ў суботу, 27 сакавіка, пасля гадзіны дня. Пацярпела жанчына-пешаход.

Падрабязнасці расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза:**

– 48-гадовы маладзечанец ехаў за рулём аўтамабіля «Сітраэн» па вуліцы Хмяльніцкага ў кірунку вуліцы Будаўнікоў. Каля дома №1 ён наехаў на 70-гадовую маладзечанку, якая пераходзіла дарогу па нерэгулюемым пешаходным пераходзе. Жанчыну з чэрапна-мазгавой траўмай і іншымі пашкоджаннямі шпіталізавалі.

Па інфармацыі ДАІ, кіроўца меў прыкметы алкагольнага ап'янення. Экспертыза паказала наяўнасць пароў алкаголю – 0,92 праміле.

Матэрыял на праверцы ў РАСК Маладзечна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пенсіянерку, што знікла летась у лістападзе, знайшлі мёртвай

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра гэта паведамілі валанцёры пошукава-выратавальнага атрада «Анёл». Зніклую жанчыну знайшлі мёртвай каля вёскі Цюрлі, у полі. Паведамленне пошукавікі атрымалі ад міліцыі.

Нагадаем, што 75-гадовая жанчына знікла 24 лістапада 2020 года. Яна пайшла з бальніцы, зайшла да сястры, што жыве ў горадзе. А дамоў, у Цюрлі, не вярнулася.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае Марынай ГАНЧАРОВАЙ.

Гарэла кватэра на чацвёртым паверсе.

# Гарэла кватэра на вуліцы Касманаўтаў

## На падлозе знайшлі гаспадара

**МАЛАДЗЕЧНА**

**24 сакавіка ў 23:14 у цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паступіла паведамленне пра пажар у кватэры жылога дома на вуліцы Касманаўтаў у Маладзечне.**

Работнікі МНС, якія прыехалі на месца, устанавілі, што пажар адбыўся ў кватэры на чацвёртым паверсе.

Пры тушэнні пажару ў адным з пакояў на падлозе спецыялісты знайшлі 49-гадовага гаспадара кватэры.

Брыгадай хуткай дапамогі з дыягназам «атручэнне прадуктамі гарэння» пацярпелы шпіталізаваны ў рэанімацыю Маладзечанскай ЦРБ. Прычына пажару высвятляецца. Разглядаецца версія – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні пацярпелага, паведамілі ў ГРАНС.

**МНС нагадвае!** Часта бесклапотна кінуты акурак становіцца прычынай пажару, наносячы матэрыяльныя страты. Па віне такой бестурботнасці гараць камеры смецепрыёмнікаў, шахты ліфтаў, палі і лясы, здараюцца пажары ў дамах і кватэрах.

Як правіла, у ліку загінулых тыя, хто меў звычку курыць у ложку ці седзячы ў крэсле ў стане алкагольнага ап'янення. У такім стане вельмі лёгка заснуць і, калі своечасова не патушыць цыгарэту, ад яе можа загарэцца адзенне або мэбля. Пажар з-за неасцярожнасці пры курэнні – гэта зусім не выпадковасць, а вынік прамога дзеяння чалавека, адзначаюць спецыялісты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У дзяўчыны патрабавалі грошы ўзамен на нераспаўсюджанне яе інтымных фота

**МАЛАДЗЕЧНА**

У міліцыю з заявай пра вымаганне звярнулася 19-гадовая жыхарка Маладзечна. Дзяўчына распавяла, што незнаёмы мужчына патрабуе ў яе 135 рублёў за тое, што не будзе выдаваць інтымную інфармацыю пра яе.

Міліцыянеры высветлілі, што пацярпелай напісалі ў сацсетцы і даслалі яе эратычныя здымкі. Па словах дзяўчыны, гэтыя фатаграфіі каля года таму яна адпраўляла знаёмаму. Каб інтымныя выявы не сталі здабыткам грамадскасці, зламыснік запатрабаваў перавесці на карту чатыры тысячы расійскіх рублёў. У адваротным выпадку, ён пагражаў разаслаць інтымнае фота ўсім сябрам дзяўчыны.

Па дадзеным факце Маладзечанскі РАСК узбудзіў крымінальную справу па частцы 1 артыкула 208 КК Рэспублікі Беларусь «Вымаганне». Санкцыя прадугледжвае да пяці гадоў пазбаўлення волі. Міліцыя шукае фігуранта.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Аўтамабіль стукнуўся ў агароджу. Кіроўца ў рэанімацыі

**ВАЛОЖЫН**

27 сакавіка каля паловы другой дня здарылася аварыя на 58-м кіламетры аўтадарогі М6 Мінск – Гродна ў Валожынскім раёне.

46-гадовы жыхар Валожына, кіруючы аўтамабілем «Опель-Астра», рухаўся ў напрамку Мінска. Паблізу вёскі Шараі кіроўца адцягнуў увагу ад дарогі і з'ехаў на ўзбочыну. Тут ён урэзаўся ў бар'ерную агароджу. З цяжкімі траўмамі мужчына шпіталізаваны ў рэанімацыйнае аддзяленне.

**Паводле БелТА.**

## На полі паміж Ільяй і Вілейскім вадасховішчам заўважылі мядзведзя

**ВІЛЕЙКА**

На мінулым тыдні ў інтэрнэце з'явілася відэа, дзе па полі паміж Вілейскім вадасховішчам і Ільяй бегае мядзведзь.

Спецыялісты ў Вілейскім доследным лясгасе пацвердзілі карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты», што на відэа – сапраўды мядзведзь. Адзначылі, што за апошнія гады гэтых жывёл у лясах Вілейшчыны стала крыху больш. У паляўнічай гаспадарцы, якая займае палову раёна, на сёння іх каля шасці. Жывёлам падабаецца лес Вілейшчыны.

Па словах спецыялістаў, на бурага мядзведзя нельга паляваць, бо ён унесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Таксама адзначылі, што не варта баяцца праз мядзведзяў хадзіць у лес. Выпадкаў, калі гэта жывёла нападае на чалавека, на Вілейшчыне не зафіксавана. Звычайна мядзведзь сам баіцца людзей, адзначылі ў лясгасе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Шукаюць настаўнікаў для школ у рэгіёнах. Ім аплацяць стыпендыю і жыллё

**Ужо некалькі дзясяткаў педагогаў працуюць у беларускіх школах з падтрымкай праграмы «Настаўнік для Беларусі». Сярод іх – настаўніца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №5 Смаргоні Кацярына Мацяш.**

Мы папрасілі педагога падзяліцца досведам, як праграма можа змяніць жыццё і дапамагчы дзецям раскрываць таленты.

Кацярына скончыла школу ў Белаазёрску Брэсцкай вобласці, а пасля паступіла на філфак БДУ. На выбар паўплывала настаўніца рускай мовы і літаратуры **Ніна Рыгораўна Вішнеўская** – вытанчаная, далікатная, з мяккім прыгожым вымаўленнем. Менавіта яна падказала, што ў Кацярыны добра атрымалася б у галіне філалогіі. Бо гэты кірунак дазваляе рэалізаваць свой артыстычны бок.

Але і падчас вучобы, і адразу пасля дзяўчына не думала, што будзе працаваць у школе. Пасля выпуску ўладкавалася ў выдавецтва, дзе затрымалася на шэсць год. А пасля працавала педагогам дадатковай адукацыі ў прыватным цэнтры, хаця разумела, што гэта не тое, чаму хоча прысвяціць жыццё.

## Чаму далучылася да праграмы

Пра існаванне праграмы «Настаўнік для Беларусі» Кацярына ведала ад самага старту. Год таму з-за пандэміі давялося развітацца з прыватным цэнтрам. Таму спецыяліст апынулася ў сітуацыі, калі давялося вызначацца з працай.

– Я хацела, каб мая праца была патрэбная і карысная, і яшчэ прыносіла мне задавальненне, – прыгадвае Кацярына. – Разам з тым мне была патрэбная супольнасць аднадумцаў, якія б падтрымалі маё пачынанне. Усё гэта сыходзілася ў праграме «Настаўнік для Беларусі».

## Апынулася ў смаргонскай школе

Далучыцца да праграмы могуць як настаўнікі, так і школы. Настаўнікі ў заяўцы пазначаюць прадмет і праект, які хацелі б рэалізаваць. А школы пазначаюць, якія маюць вакансіі. Так пры пасрэдніцтве арганізатараў настаўнік і школа знаходзяць адзін аднаго і дамаўляюцца аб супрацоўніцтве.

Кацярына адзначае, што калі прыехала ў смаргонскую школу для знаёмства, інтуіцыя падказала, што гэта – яе, тое, што трэба.

## Кожная гісторыя заслугоўвае, каб яе пачулі

Настаўнікі, якія ўдзельнічаюць у праграме, акрамя асноўнай працы ўвасабляюць адукацыйны праект на свой густ. Кацярына Мацяш арганізавала Клуб аматараў літаратуры. Педагог імкнецца стварыць падчас заняткаў клуба атмасферу свабоды, прыняцця і натхнення. Удзельнікі сачыняюць гісторыі і абмяркоўваюць іх.

**Клуб кіруецца дэвізам, што кожная гісторыя заслугоўвае, каб яе пачулі. З твораў удзельнікаў склалі пілотную версію кнігі. Адна з дзяўчынак робіць ілюстрацыі. У планах – дапрацаваць выданне і пусціць яго на продаж.**

## Пра грошы

Удзельнікі праграмы атрымліваюць фінансавую дапамогу. Кацярына адзначае, што гэта вельмі істотна. Яна як настаўнік без катэгорыі магла разлічваць толькі на мінімальную аплату.

Таму дзякуючы стыпендыі і кампенсацыі аплаты за жыллё настаўнік можа прысвяціць сябе працы, а не ламаць галаву, дзе ўзяць грошы на мінімальныя патрэбы.

## Набытак для сябе

Важная частка праграмы ў тым, што ўдзельнікі атрымліваюць веды падчас летняга інтэнсіву.

– Настаўнік сам не можа перастаць вучыцца, – разважае Кацярына Мацяш. – Сучасны свет так хутка мяняецца, што, каб існаваць у ім, неабходна пастаянна набываць новыя навыкі. У тым ліку і прафесійныя.

## Складаныя сітуацыі

Любы настаўнік час ад часу сутыкаецца з праблемай кепскай дысцыпліны на ўроку. Мы папрасілі суразмоўцу падзяліцца рэкамендацыямі – што рабіць, калі вучні шумяць.

Першыя хвіліны ўрока дзеці могуць не адразу прыйсці ў рабочы стан. Таму калі клас шуміць, можа дапамагчы паўза. Хтосьці з дзяцей пачынае абсякаць аднакласнікаў: «Наш настаўнік чакае». І за хвіліну-другую клас звычайна супакойваецца сам. Можна паспрабаваць усміхнуцца і проста паглядзець на дзяцей. Або падысці і дакрануцца да парты асабліва гучнага вучня.

**Яшчэ добры спосаб скінуць лішкі энергіі – фізкультхвілінка. Дзеці патанцуюць «Макарэну», і ўжо гатовы канцэнтравацца далей.**

## Што кажуць вучні

Дзеці шчыра аддзячваюць настаўніцы цёплымі і кранальнымі водгукамі. Некаторым падабаецца, што на ўроках можна патанцаваць на фізкультхвілінцы, іншыя прызнаюцца, што Кацярына Сяргееўна – самая добрая настаўніца на Зямлі.

Для самой жа Кацярыны Мацяш надзвычай важна ствараць атмасферу бяспекі і расслаблення, бо толькі ў такіх умовах можна вучыцца напоўніцу.



Фота забяспечана Кацярынай МАЦЯШ.

Настаўніца рускай мовы і літаратуры Кацярына Мацяш.

## Як далучыцца да праграмы

Апошняя хваля набору ўдзельнікаў на новы сезон праграмы «Настаўнік для Беларусі» адбываецца ад 23 сакавіка да 23 мая. Гэта трэці набор на праграму, якая падтрымлівае таленавітых і смелых настаўнікаў і людзей, якія гатовы стаць настаўнікамі ў школе. Праграму рэалізуе мясцовы адукацыйны фонд «Новая школа». Заснавальнік фонду – адзін з беларускіх банкаў.

Мэта праграмы – забяспечыць у школах райцэнтраў і вёсак магчымасць вучыцца не на горшым узроўні, чым іх аднагодкі ў вялікіх гарадах. Для таго, каб прыцягнуць актыўных настаўнікаў у меншыя населеныя пункты, і распрацавалі праграму.

**Ужо двойчы ладзілі наборы, так што ў шэрагу школ Беларусі выкладаюць настаўнікі, якіх падтрымлівае праграма.**

Для таго, каб далучыцца да праграмы, неабходна запоўніць анкету, размешчаную на старонцы **teach4.by/anketa.** Пасля арганізатары правядуць з кандыдатамі дыстанцыйнае інтэрв'ю. Пасля паспяховага праходжання гэтых этапаў удзельнікаў запросяць на групавы анлайн-тур. У выніку тых, хто паспяхова прайшоў усе этапы, запрашаюць на чатырохтыднёвы летні інтэнсіў. Падчас яго ўдзельнікі атрымаюць самыя актуальныя веды ў галіне педагогікі, праектнага менеджмента, лідарства і іншыя веды, якія неабходныя сучаснаму настаўніку.

Далучыцца ў якасці партнёраў могуць і школы. Прапанова асабліва актуальная, калі ў школе не хапае кадраў, але вельмі хочацца рабіць школу лепшай, удасканальваць веды настаўнікаў і ствараць прыемны асяродак для вучняў. Для гэтага школам варта запоўніць заяўку на старонцы **teach4.by/school.**

## Бонусы для ўдзельнікаў

Пасля гэтага ўдзельнік працуе ў школе настаўнікам і ўвасабляе праект, які задумаў. Гэта можа быць як адкрыццё парку на тэрыторыі школы, так і адкрыццё курсаў па праграмаванні – галоўнае, каб ініцыятыва развівала адукацыйныя магчымасці школьнікаў. Пажаданы тэрмін – два гады.

Удзельнік праграмы будзе атрымліваць стыпендыю ад праграмы ў памеры 250 рублёў, кампенсацыю за арэнду жылля, а таксама ноўтбук для працы.

Такім чынам дзякуючы праграме таленавітыя настаўнікі працуюць у рэгіянальных школах – там, дзе яны вельмі патрэбныя. І пры гэтым дапамагаюць раскрыць патэнцыял дзяцей, дапамагаюць ім усвядоміць сваю каштоўнасць.



Падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.**
вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Гума на дысках 6,40-13с М-100 «Масквіч-412» ІЖ (пікап), б/у. Торг. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. (8-029) 3091788, (8-029) 1312415.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўтамабіль. Можна з дэфектамі. Т. (8-029) 8794563.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто для сябе з перафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду для сябе з перафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

• Стары матацыкл, каляску да матацыкла, запчасткі. Т. (8-029) 6590477.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна, 4 паверх/5, цэгла, 45/26/10, з рамонтам. Т. (8-029) 3196253.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 5/5 (з тэхнічным паверхам). Агульная 71,4, жылая 43,1 (11,7/12,7/18,7), кухня – 8,1. Санвузел раздзельны, кладоўка, падвал. Т. (8-025) 7653611.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Міру, 5 паверх, добры рамонт. Цана па тэл. МТС (8-033) 3542356.*

• Дача ў Асінаўцы. Участак 10 сотак. 5 км ад Смаргоні. 50 м лес. Пладовыя дрэвы, кусты. Дом, хлеўчык, калодзеж, агароджа – сетка. Т. МТС (8-033) 3591382, (8-044) 5622655.*

• Дом у аграгарадку Ілья. Агульная плошча – 90 кв.м. Чатыры пакоі, кухня, сан. вузел раздзельны. Вялікі ўчастак, сад, хлеў з блокаў, развітая інфраструктура. Кошт – 78 000 рублёў. Т. (8-033) 3103610.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Ліпаўка, 7 км чыгунка Солы. Шмат зямлі. Ёсць возера. Т. (8-029) 8033168.*

• Дом-дача ў Валожынскім раёне. Т. (8-029) 8771367.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжавічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### КУПЛЮ

• Дом (лес, рэчка). Т. (8-029) 6511477.*

### ЗДАМ

• Гандлёвае памяшканне пл. 76 кв.м у Маладзечне па вул. Прытыцкага. Т. (8-029) 6046867, (8-029) 7648443.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Несцяровіч Я.А. УНП 691899504. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Копка, чыстка, рамонт калодзежаў, каналізацыі, ацяплення пад ключ. ІП Гарэлікаў Д.А. УНП 591821956. Т. (8-029) 5201260.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Чыстка, рамонт калодзежаў. Домікі на калодзеж. Каналізацыя пад ключ. Растэрміноўка плацяжу. Пуховіч А.В. УНП 591815033 Т. (8-029) 9188866.*

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

## РОЗНАЕ

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.

**Бытавая тэхніка**

• Швейная машынка, падольская, 1986 г.в., электрычная. Т. (8-029)5334290.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, А1 (8-029) 6938397.*

• Парасяты кармалаў. Т.(8-044) 5321975, (8-029) 7621019.

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Цыскі любыя. Т. (8-029) 8794563.*

### МЯНЯЮ

• 4 пеўні (8 мес.) на 4 курыцы. Вёска Мілідаўшчына Смаргонскага раёна. Т. (8-044) 7438947.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель кат. С, развоз тавараў па магазінах. Т. (8-044) 7657682.*

• Шукаем сядзелку для пажылой ляжачай жанчыны. З пражываннем. Вілейскі раён. Умовы працы абмяркоўваюцца. Т. (8-029) 6575037.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце драўляных дамоў: замена ніжніх вянцоў, а таксама рамонт фундаментаў, дахаў. Т. (8-029) 8745410.*

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*

# Камітэт дзяржкантролю праверыў падрыхтоўку гаспадарак да пасяўной

**Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці праверыў, як сельгасарганізацыі падрыхтаваліся да пасяўной кампаніі.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Падчас праверкі спецыялісты ўстанавілі няпраўдзівасць дадзеных пра гатоўнасць сельгастэхнікі, арганізацыйныя недапрацоўкі і парушэнні, а ў асобных выпадках безгаспадарлівасць.

Недастатковымі тэмпамі сельгасарганізацыі Мінскай вобласці назапашваюць мінеральныя ўгнаенні. Ніжэй за сярэднеабласны ўзровень назапашвання ў сельгасарганізацыях 13 раёнаў вобласці, у тым ліку: Мядзельскага, Бярэзінскага, Чэрвеньскага, Любанскага, Барысаўскага, Вілейскага і іншых раёнаў.

У шэрагу сельгасарганізацый падчас маніторынгу не былі распрацаваныя і зацверджаныя планы яравой сяўбы, прымянення мінеральных угнаенняў і іншыя арганізацыйна-тэхналагічныя дакументы. Не было таксама плана фінансавання пасяўной кампаніі.

У цэлым па Мінскай вобласці гатоўнасць асноўных відаў сельскагаспадарчай тэхнікі, згодна са справаздачнымі дадзенымі, больш за 90%. Разам з тым, у васьмі сельгасарганізацыях спецыялісты заўважылі скажэнні аператыўнай справаздачнасці. Да прыкладу, у ААТ «Зані» Мядзельскага раёна пры ста працэнтах гатоўнасці, згодна са справаздачнымі дадзенымі, збожжавых сеялак і камбінаванага глебаапрацоўчага агрэгата фактычна на момант маніторынгу 10 сакавіка была спраўная толькі адна з трох наяўных у гаспадарцы збожжавых сеялак. А адзіны камбінаваны глебаапрацоўчы агрэгат знаходзіўся ў рамонце.

На гэту ж дату ў ААТ «Мядзельаграсэрвіс» быў на рамонце энерганасычаны трактар «Беларус-3522», які па аператыўнай справаздачнасці лічыўся спраўным. Акрамя таго, у гэтай гаспадарцы лічыліся спраўнымі, фактычна не гатовыя да выкарыстання, дыскатар, камбінаваны пасяўны агрэгат, а таксама адна з дзвюх наяўных збожжавых сеялак.

**Падчас маніторынгу гэту тэхніку ў гаспадарцы не рамантавалі.**

Гатоўнасць машын для ўнясення цвёрдых арганічных угнаенняў у ААТ «Сваткі» Мядзельскага раёна, згодна з аператыўнай інфармацыяй, складала сто працэнтаў. А фактычна не былі адрамантаваныя дзве з васьмі наяўных машын.

Пераважна ліквідацыя заўважаных недахопаў не патрабуе істотных фінансавых укладанняў і абумоўлена, па ацэнцы Камітэта, перш за ўсё, нізкай выканальніцкай дысцыплінай.

З мэтай прыняцця мер рэагавання на недахопы спецыялісты праінфармавалі мясцовыя органы ўлады. Кантроль працягваецца.

**Упраўленне кантролю за працай аграпрамысловага і прыродаахоўнага комплексаў Камітэта дзяржаўнага кантролю Мінскай вобласці.**

## Дайджэст: Падаюць пенсіі і сярэдні заробак

**Што важнага адбылося ў краіне і свеце за апошні тыдзень, прапануем прыгадаць у нашым аглядзе.**

### Рэальныя пенсіі ўпалі на 1,9%

Пенсіі з папраўкай на рост цэн падаюць ужо другі месяц запар, такога падзення не назіралася два гады. З дадзеных Белстата вынікае, што рэальныя пенсіі беларусаў, у параўнанні са студзенем, у лютым упалі на 1,9%. У першым месяцы 2021 года таксама было падзенне пенсій, але тады яны апусціліся на 1,1%, а да гэтага ў апошні раз зніжэнне рэальных пенсій на такім узроўні зафіксавалі ў лютым 2019 года. Яшчэ большае зніжэнне рэальных пенсій было ў кастрычніку 2017, тады яны ўпалі на 1,2%. У 2020 годзе рэальныя пенсіі падалі 8 месяцаў з 12. Працоўныя пенсіі летась павышалі ў ліпені і снежні.

### Ад кавіду прышчапілася больш за 40 тысяч чалавек

Паводле апошніх звестак, колькасць прышчэпленых адной дозай вакцыны склала 40 518 чалавек. Поўны курс вакцынацыі (дзвюма дозамі) прайшлі 26 100 чалавек.

Прышчапляюць расійскай вакцынай «Гам-Кавід-Вак» («Спутник V») і кітайскай Vero cell. Вакцынацыя бясплатная. Масавую вакцынацыю плануюць пачаць у красавіку.

### Сярэдні заробак зменшыўся на 13 рублёў

Сярэдні заробак у лютым склаў 1277,1 рубля. За студзень ён быў 1290 рублёў. Аднак варта ўлічваць, што гэта заробак «бруднымі». Калі адмінусаваць падаходны падатак (13%) і абавязковыя страхавыя ўнёскі ў Фонд сацыяльнай абароны (1%), то ён будзе складаць прыкладна 1098,2 рубля. У пераліку на долары па сярэднім курсе Нацбанка ў лютым (2,6036 рубля) гэта сума складае каля 422 долараў.

### Лукашэнка зняў з пасады начальніка міліцыі Мінскай вобласці

Генерал-маёр міліцыі **Аляксандр Кавальчук** вызвалены з пасады начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама. Адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў 26 сакавіка. Пра прычыны кадравага рашэння не паведамляецца. На пасадзе Кавальчук быў ад лютага 2018 года.

### Украіна зрабіла ПЦР-тэст абавязковым для ўезду ў краіну

ПЦР-тэставанне павінна быць праведзенае не больш чым за 72 гадзіны да перасячэння ўкраінскай мяжы. Кабінет міністраў Украіны прыняў пастанову, згодна з якой абавязковай умовай для ўезду ў краіну замежнікаў з'яўляецца наяўнасць адмоўнага ПЦР-тэста на каронавірус. Таксама для ўезду ва Украіну неабходны страхавы поліс, які пакрывае страты на лячэнне COVID-19, выдадзены ўкраінскай страхавой кампаніяй або замежнай страхавой кампаніяй, якая мае прадстаўніцтва ва Украіне.

**Паводле БелТА, tut.by, Міністэрства аховы здароўя.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |

# Выхавальніца распрацавала серыю заняткаў пра калыску

СМАРГОНЬ

**Зусім нядаўна мы з дзецьмі часова прытулілі ў сваёй групе сямейную драўляную калыску адной нашай выхаванкі.**

Цікавую гісторыю гэтага старадаўняга вырабу распавёў тата дзяўчынкі, **Ігар Найдзіч**:

«У калысцы выгадавалася некалькі пакаленняў нашай сям'і. Існавала нават традыцыя – усе дзеці павінны былі паспаць у гэтым ложачку, каб быць здаровымі. Калыска зроблена з сасны і лазы, матрац быў напоўнены сенам. Зрабіў калыску пад замову сваяк сям'і, майстар-самавучка **Зыгмунд Бобек**, чалавек з залатымі сэрцам і рукамі. Майстар умеў усё: будаваць хаты, рабіць мэблю, іграць на музычных інструментах і нават маляваць карціны. Яго работы ёсць у многіх кутках Беларусі і нават у Польшчы. А яшчэ гэты чалавек з чулай душой вельмі любіў прыроду. Ён пасадзіў вакол сваёй хаты бярозавы гай, якому зараз ужо 60 год, і ўвесь час будаваў і вешаў на дрэвы розныя птушыныя домікі: шпакоўні, сінічнікі, кармушкі».

Каб даступна і зразумела распавесці малым пра гэту калыску, я спецыяльна распрацавала серыю заняткаў. Падчас іх малыя даведваюцца пра прызначэнне і ўладкаванне калыскі, розныя якасці драўніны, з якіх рабілі гэту дзіцячую мэблю, пра старадаўнюю пасцельную бялізну і яе аздабленне. А яшчэ дзеці практыкуюцца самі засцілаць ложачак, маляваць розныя разьбяныя калыскі, адмыслова змешваючы фарбы пад колер драўніны. Выхаванцы захінаюць у пялюшкі лялек-немаўлят, спяваюць ім розныя калыханкі, даведваюцца пра сяброў немаўлят – лялек-мотанак, зернавушак і злую ведзьму Стрыгу з беларускіх міфаў, якой страшылі калісьці малых дзяцей.

У змесце заняткаў я выкарыстала шмат фальклорных і музычных твораў, распрацавала назіранні, імітацыйныя практыкаванні і фізкультхвілінкі, рухомыя і карагодныя гульні, практычную работу.



Падчас заняткаў дашкольнікі вучацца спавіваць лялек, спяваць калыханкі, даведваюцца пра міфічных істот.

Метадычныя распрацоўкі заняткаў можна выкарыстоўваць у спецыяльнай арганізаванай дзейнасці, напрыклад, пры фарміраванні ўяўленняў выхаванцаў пра мэблю, дрэвы, беларускія традыцыі, рамёствы, фальклор. А яшчэ – падчас дадатковых заняткаў у дзіцячых цэнтрах творчасці, гуртковай рабоце.

Пабудаваныя такім чынам заняткі будуць не толькі пазнавальнымі, але і мець глыбокі выхаваўчы ўплыў. Бо ўсе мы – родам з калыскі: спачатку з сямейнай драўлянай, а потым з роднай Беларусі.

Цяпер мы шукаем для нашай калыскі добры музей, дзе б ацанілі яе ўнікальнасць і каштоўнасць, захоўвалі і бераглі адпаведным чынам. Такіх прадметаў сямейнай спадчыны ў нашай групе захоўваецца нямала: тканыя і вышываныя ручнікі, дываны, накідкі і сурвэткі, гліняны і драўляны посуд, карункі. Калі гаспадарам сямейныя рэчы не трэба, то я заўсёды знаходжу магчымасць прытуліць іх у сябе.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ,**
**выхавальніца дашкольнай адукацыі ясляў-сада №8 г. Смаргоні.**
**Фота аўтара.**



З якога дрэва рабілі калыскі?

## Дзённік мамы чацвёртакласніцы. Усё бліжэй да канікулаў і развітання з пачатковай школай

**Чацвёрты клас, а з ім і пачатковая школа няўмольна набліжаюцца да завяршэння. Вось і вясновыя канікулы Варвара амаль адгуляла.**

Адгуляла весела, бо на палову канікулаў яны з Юляй запрасілі да сябе вясковую сяброўку Яну. Кожны дзень паказвалі ёй горад, хадзілі ў парк, кінатэатр, на Брадвей, вуліцу Стрытфуда і іншыя знакавыя месцы Маладзечна.

Праўда, расслабіцца напоўніцу не выпадала. Штодзень былі рэпетыцыі аркестра дудак у школе. А ў канцы канікулаў рабілі відэа для адказнага музычнага конкурсу ў Польшчы. Для запісу артыстам выдалі нацыянальныя касцюмы. А яшчэ ў Варварыным рэпертуары замест дзіцячых песенек пачалі з'яўляцца сур'ёзныя музычныя творы са зборніка старажытнай музыкі «Полацкі сшытак».

Падчас трэцяй чвэрці чацвёрты клас вучыўся танцаваць вальс да выпускнога. Невядома, праўда, ці будзе ён з-за пандэміі, аднак дзеці спадзяюцца на лепшае. Хлопчыкі і дзяўчынкі вучацца танцаваць у парах. Варвары выдзелілі хлопчыка, які часта хварэе. Таму ёй прыходзіцца часам танцаваць адной.

Чвэрць Варвара скончыла вельмі добра – з дзвюма васьмёркамі і чатырма дзясяткамі. І некалькі дзявятак таксама ёсць. Дзясяткі традыцыйна – па літаратурах. І не традыцыйна – па англійскай мове і па прадмеце «Мая радзіма Беларусь». Цікавае адчуванне, калі твае дзеці-школьнікі ведаюць англійскую лепш, чым ты.

Падчас канікулаў была экскурсія ў сталіцу. Эпідсітуацыя, канешне, не вельмі спрыяла падобным мерапрыемствам. Але ж ехала сяброўка, таму і Варвара не ўтрымалася. Да таго ж у любімым «Макдональдсе» апошні раз была гады тры таму. Пабачылі сталіцу з вышыні нацыянальнай бібліятэкі, паелі бульбы-фры, наведалі музей метро. Кажа, вельмі ўразіла шкляная падлога і шкляны ліфт у бібліятэцы.

Экскурсавод у аўтобусе задавала пытанні па гісторыі Беларусі. Вара добра адказвала на іх і атрымала ў падарунак нататнік.

А ўвогуле, пра эпідсітуацыю ў школе дбаюць. Кожны вечар, рыхтуючыся да школы, вучаніца правярала, каб у партфелі была ахоўная маска і сродак для апрацоўкі рук.



Замест дзіцячых песенек у Варварыным рэпертуары пачалі з'яўляцца сур'ёзныя мелодыі з «Полацкага сшытка».

Назіраючы за Юлінай вучобай, Вара ўжо склала сабе ўмоўны спіс настаўнікаў-прадметнікаў, якіх бы хацела бачыць у сваім класе ў наступным навучальным годзе. Ці ж спраўдзіцца той спіс?

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

Аўтарамі гэтай рубрыкі мы запрашаем чытачоў і герояў публікацый. Яны складаюць спіс любімых твораў мастацтва і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# Таршэр

# Напэўна, і дачку назваў Алісай у гонар персанажа кнігі

**Пра свой спіс любімых твораў мастацтва расказвае музыкант, майстар спорту па шахматах, бізнесмен і бацька траіх дзяцей Віталь Качаткоў з Маладзечна.**



Фота russianshanson.info.

Маладзечанец Віталь Качаткоў.

Фармат рубрыкі «Таршэр» – гэта кароткае рэзюмэ пра твор. Пару радкоў эсэ, каб зацікавіць меркаванага чытача. Каб той пры выбары не патануў у мегатонах літаратуры і іншых твораў мастацтва. Каб дапамагчы чытачу вызначыцца з магчымым будучым матэрыялам для ўспрымання і пазнання.

**Само чытанне літаратуры і кніг адбываецца ў мяне хвалепадобна ў залежнасці ад розных перыядаў. Цяпер, напрыклад, не чытаецца нешта сур'ёзнае і доўгае. Чытаюцца, у асноўным, навіны, артыкулы, і не толькі пра палітыку. Цяпер пражываю такую вось хвалю.**

Расказваючы пра творы мастацтва, паспрабую закрануць тых пісьменнікаў, творчасць якіх крыху змяніла мой светапогляд.

### 1. «Ператварэнне» Франца Кафкі

Не проста вырашыць, што ўзначаліць спіс. Усё ж на першае месца пастаўлю пісьменніка Франца Кафку. Зразумець, ці ваша такая творчасць, мабыць, атрымаецца толькі ў працэсе чытання. Пачніце знаёмства з Кафкай з аповесці «Ператварэнне».

### 2. «Прыгоды бравага салдата Швейка» Яраслава Гашэка

Я рэдка перачытваю кнігі. Але чамусьці «Прыгоды бравага салдата Швейка» Гашэка – адна з гэтых кніг. Растлумачыць прычыну цяжка. Хутчэй за ўсё, прычына ў сумесі гумару, сарказму і сюррэалізму. Усё гэта такое атрутнае і ў той жа час такое маё.

### 3. Творы Ігара Губермана

Скажаце, што папса? Ну, так. Але гэта, як і ў Жванецкага, – усё наша жыццё. Тым, хто не любіць маты, крыху на мяжы амаль паэтычнай пошласці – не чытайце. Мая маці, напрыклад, не змагла прачытаць.

### 4. Байкі Эзопа

Якраз нядаўна адкрыў для сябе байкі Эзопа. Аказваецца, многія вядомыя нам класічныя творы другасныя ў плане сюжэту. Таму цікава было пазнаёміцца з першакрыніцай.

### 5. Творы Святланы Алексіевіч

З твораў гэтага аўтара рэкамендую прачытаць усё.

**Будзе цяжка, балюча, эмацыйна. Але чытаць трэба.**

Можна пачаць з класікі – «У вайны не жаночы твар».

### 6. «Лаліта» Набокава

Калі я станавіўся артыстам, у Маскве першы час падчас інтэрв'ю пакутаваў на тое, што было цяжка выказваць думкі словамі. Мне парэкамендавалі пачытаць чамусьці менавіта «Лаліту» Набокава. Казалі, што гэта класіка сучаснай рускай мовы. Раман скандальна эратычны, чытаць пасля дасягнення 18 год.

### 7. «Вершнікі без галавы» Салаўёва-Спаскага

Я заўсёды аддаваў перавагу праверанным стравам і напоям. Не выключэнне складаюць і кнігі. Звяртаю ўвагу на класіку і рэкамендацыі. Адна з рэкамендаваных у перыяд, калі я актыўна заваёўваў музычны алімп, каб пазнаёміцца з гісторыяй сучаснай музыкі, – «Вершнікі без галавы» Салаўёва-Спаскага.

Аўтар цікавы мне тым, што з'яўляецца сынам дзясятага чэмпіёна свету па шахматах Барыса Спаскага. Кніга пра звар'яцелых музычных зорак. Адразу зразумеў, што я – не зорка.

Не будзем факусавацца на творах Чэхава, Салжаніцына, Даўлатава – тут і так усё вядома, яны абавязковыя да прачытання.

**Каюся аб адсутнасці ў спісе кніг беларускіх аўтараў.**

Спадзяюся, падчас наступнай хвалі літаратурнага запою кампенсую гэта і спаталю смагу ў Караткевічы, Марціновічы, Глобусе, можа, і Батракову пачытаю.

### 8. «Мае Вялікія папярэднікі» Гары Каспарава

Са спецыялізаванай літаратуры вылучу аўтара Гары Каспарава. Пяцітомнік «Мае Вялікія папярэднікі» пагрузіць вас надоўга ў свет шахмат, шахматнай гісторыі.

### 9. Творы Рона Хабарда

Небяспечны геніяльны аўтар. Можа пагрузіць і заразіць ідэямі, змяніць жыццё. Падарыў гадоў 20 таму кнігу аднаму сябру – яна перакуліла сябру жыццё.

### 10. «Прыгоды Алісы ў Краіне цудаў» Льюіса Кэрала

Казкі, вершы, апавяданні проста люблю. Часам чытаю проста нанач з Льюіса Кэрала «Прыгоды Алісы ў Краіне цудаў». Напэўна, і дачку сваю назвалі ў гонар гэтай Алісы.

# У Маладзечне судзілі шасцярых за перакрыццё Вялікага Гасцінца

**У судзе Маладзечанскага раёна пачаўся разбор па справе аб перакрыцці Вялікага Гасцінца ў лістападзе 2020 года. 21 лістапада маладзечанцы перакрылі галоўную вуліцу горада з расцяжкай «Пакуль у краіне беззаконне, супраціўленне – наш доўг».**



Саладоўнікаў і Карабейнік знаходзяцца пад вартай з лістапада.

Судовае пасяджэнне вядзе суддзя **Вікторыя Паляшчук**. Дзяржаўны абвінаваўца – **Валер Пяркоўскі**. **Літвіновіч**, **Волкава**, **Нікіценка**, **Маліноўскі**, **Клімовіч** абараняюць падсудных.

**Дзмітрыя Карабейніка** і **Рыгора Саладоўнікава** затрымалі яшчэ ў лістападзе, на наступны дзень пасля перакрыцця. Ад 22 лістапада мужчыны пад вартай: да 1 снежня ў маладзечанскім ІЧУ, пасля – у жодзінскім СІЗА.

На лаўцы падсудных яшчэ чацвёра абвінавачаных – **Ганна Задорская**, **Эліна Карыцька**, **Сяргей Сідаровіч**, **Ігар Сідаровіч**. Яны знаходзіліся на волі пад падпіскай аб нявыездзе да пачатку суда. Раней з падсудных ніхто не прыцягваўся да крымінальнай адказнасці.

**Усіх абвінавачваюць па частцы 1 артыкула 342 Крымінальнага кодэкса «Арганізацыя ці падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак». Задорскую яшчэ і па частцы 6 артыкула 16 «Саўдзел у злачынстве».**

Пацярпелыя: **Аксана Герасімюк**, **Віктар Мілашэвіч**, **Уладзімір Якімовіч**, **Кацярына Дубіна**, **Сяргей Тумель**. Пацярпелыя не заяўлялі позвы аб кампенсацыі маральнай ці фізічнай шкоды.

Абаронца Задорскай Клімовіч заўважыў, што пацярпелыя не заяўлялі прэтэнзіі да абвінавачаных, а падчас папярэдняга следства выказвалі меркаванне, што не панеслі ніякіх страт.

Пацярпелыя заявілі, што яны падтрымліваюць Клімовіча, які хадайнічаў аб непрызнанні іх пацярпелымі.

**Некаторыя з іх адзначылі, што зусім не лічаць сябе пацярпелымі. Хадайніцтва падтрымалі і абвінавачаныя, і адвакаты. Супраць выступіў толькі дзяржабвінаваўца. Суддзя адхіліла хадайніцтва абаронцы.**

Згодна з абвінавачаннем, Задорская зрабіла банер, тым самым дапамагла ў здзяйсненні злачынства. Банер перадала Саладоўнікаву. Затым Саладоўнікаў разам з Карыцькай, Ігарам і Сяргеем Сідаровічамі, Карабейнікам перакрылі Вялікі Гасцінец, гэтым парушылі функцыянаванне грамадскага транспарту, машыны «хуткай дапамогі», а таксама з-за гэтага пацярпелі правы і свабоды людзей.

**Карыцька, Карабейнік, Ігар і Сяргей Сідаровічы прызналі віну цалкам. Саладоўнікаў прызнаў часткова. Задорская віну не прызнала.**

### Паказанні Саладоўнікава

Рыгор Саладоўнікаў жыў з маці, працаваў дворнікам у дзіцячым садку. З астатнімі абвінавачанымі пазнаёміўся ў тэлеграм-канале, абмяркоўваў палітычную сітуацыю ў краіне.

– З'явілася жаданне паказаць пазіцыю. Мы абмяркоўвалі, што зрабіць, ініцыятара не было. Прыйшлі да таго, што захацелі выказаць сваю пазіцыю наконт таго, што адбываецца.

Саладоўнікаў кажа, што ніяк не рыхтаваліся, ён дакладна не ведае, хто зрабіў банер. 20 лістапада людзі сустрэліся ў парку, каб абмеркаваць далейшыя дзеянні, правесці рэпетыцыю.

– Я магу пазнаць цяпер толькі Дзмітрыя. Тады быў вечар, цёмна. Паспрабавалі расцягнуць банер, пасля дамовіліся сабрацца ў суботу дзесьці да 10 гадзін. Банер мне перадала дзяўчына.

Месца абмяркоўвалі ў тэлеграм-чаце. Было некалькі варыянтаў, выбралі скрыжаванне каля гімназіі №6.

Вялікі Гасцінец перакрывалі пяцёра чалавек. Яны выйшлі на зялёны сігнал для пешаходаў на пешаходны пераход. Саладоўнікаў кажа, што стаялі каля хвіліны. Абвінавачаны прызнае віну, што выйшаў на пешаходны пераход з банерам, але лічыць, што гэтыя дзеянні не пацягнулі нязручнасці для каго-небудзь. Ён таксама падкрэсліў, што людзі не абмяркоўвалі, што будуць блакаваць транспарт.

Дзяржаўны абвінаваўца запытаўся, ці збіраецца Саладоўнікаў удзельнічаць у пратэсных акцыях. У зале пачалі абурацца людзі, суддзя заклікала да цішыні, але Саладоўнікаў не адказаў на пытанне.

### Паказанні Карабейніка

Дзмітры Карабейнік працаваў кіроўцам у Ракаве. 17 лістапада звольніўся, каб 23 лістапада пайсці на работу на фабрыку ў Заслаўе. 22 лістапада яго затрымалі супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС.

Карабейнік пазнаёміўся з абвінавачанымі ў тэлеграм-чаце, яго дадалі туды прыкладна за тыдзень да падзей. У чаце абмяркоўвалі выхад на скрыжаванне, Карабейнік не памятае, хто прапанаваў гэта зрабіць.

**– За дзень да акцыі дамовіліся сустрэцца ў Камсамольскім парку, расцягнулі белую матэрыю. Там было пяцёра чалавек, прабылі хвілін 5-10. Расцягнулі і сцягнулі банер, паглядзелі, колькі атрымаецца па часе.**

Абмеркаванне, дзе будуць расцягваць банер, праходзіла ў чаце. Карабейнік пацвярджае словы Саладоўнікава: пяцёра чалавек выйшлі на дарогу на зялёнае святло. Там стаялі не больш за хвіліну. Пасля ўвечары Карабейнік спаліў чырвоную куртку, у якой быў, бо зразумеў, што здзейсніў злачынства.

– Я бачыў у інтэрнэце, як збіваюць дзяўчыну. Як мужчыну мне такі ўчынак не спадабаўся. Таму вырашыў выйсці, – адказаў Карабейнік на пытанне дзяржаўнага абвінаваўцы, чаму перакрыў вуліцу.

### Паказанні Сяргея Сідаровіча

Сяргей Сідаровіч працаваў у школе №9 да жніўня 2019 года, а пасля звольніўся і не змог знайсці працу праграміста амаль год. У лістападзе 2020 года Сяргея дадалі ў тэлеграм-чат, у якім абмяркоўвалі акцыю. Хлопец кажа, што не чытаў паведамленні і не ўдзельнічаў у гутарках.

**20 лістапада ён разам з Элінай Карыцькай прыйшоў на прыпынак, з якога яго забрала Ганна Задорская на машыне. Яны разам прыехалі ў Камсамольскі парк. Там прайшла так званая рэпетыцыя акцыі: паглядзелі на банер, разабралі і сабралі яго.**

На наступны дзень, 21 лістапада, Сідаровіч разам з Карыцькай прыехаў на таксі да скрыжавання Вялікі Гасцінец і Багдана Хмяльніцкага,

# мясцовых жыхароў



Эліна Карыцька і Сяргей Сідаровіч абдымаюцца перад пачаткам пасяджэння.

там ужо чакалі людзі. Яны разам падышлі да скрыжавання, выйшлі на зялёнае святло і разгарнулі банер.

**Сяргей успамінае, што пад банерам праехала адна машына, пасля яны сабралі банер і сышлі з Карыцькай у парк.**

Сідаровіча затрымалі напрыканцы снежня 2020 года супрацоўнікі ГУБАЗіК. Яго папрасілі запісаць відэа, дзе ён расказвае, што здзейсніў. Сяргей кажа, што тэкст быў узгоднены з супрацоўнікам.

– Зараз тут усё цывілізавана на судзе. У ІЧУ супрацоўнікі зазіралі ў акенца і смяяліся. У мяне былі ружовыя валасы, татуіроўкі. Можа мне хтосьці патлумачыць, чаму падчасператрусу мяне раздзелі дагала і фатаграфавалі? Пасля гэтыя здымкі ў справе не фігуравалі.

Сяргей прызнаецца, што парушыў правілы дарожнага руху, але не парушыў грамадскі парадак і не нашкодзіў людзям, бо самі пацярпелыя кажуць, што не прычынілі ім ніякіх пакут.

## Паказанні Ігара Сідаровіча

Ігар Сідаровіч – бацька Сяргея Сідаровіча. У яго інваліднасць 2 групы: у Расіі яго збіла фура, ампутавалі нагу да калена.

**Ігар успамінае, як хтосьці ў тэлеграм-чаце расказаў пра акцыю. Ён не мог удзельнічаць, таму прапанаваў сыну. На рэпетыцыю не паехаў, бо фізічна не мог.**

21 лістапада даведаўся, што акцыя пройдзе на скрыжаванні Гасцінец-Хмяльніцкага. Хацеў паглядзець, не паспеў на аўтобус і дайшоў толькі да ўвахода ў парк. Часткова бачыў акцыю – як збіраюць банер, пасля патэлефанаваў сыну і пайшоў дадому.

– Гэта была форма пратэсту. На банеры ўсё было напісана: супраць гвалту, – патлумачыў пра матывы акцыі Сідаровіч-старэйшы.

## Паказанні Эліны Карыцькі

Карыцька даведалася пра акцыю ад свайго хлопца Сяргея Сідаровіча. Пра тэлеграм-чат, дзе абмяркоўвалі саму акцыю, не ведала. Дзяўчына прысутнічала на рэпетыцыі, а 21 лістапада трымала банер. Карыцьку затрымалі ў снежні, калі былі затрыманыя і Сідаровічы.

## Паказанні Ганны Задорскай

Задорская не ўдзельнічала ў самой акцыі. Зрабіла банер, прывезла яго на рэпетыцыю за дзень да акцыі. 21 лістапада зрабіла здымкі перакрыцця, даслала іх удзельніку чата. Задорская не прызнае, што яе дзеянні – гэта злачынства, якое прывяло да парушэння руху транспарту.

## Паказанні пацярпелых

25 сакавіка давалі паказанні пацярпелыя Уладзімір Якімовіч, Аксана Герасімюк, Кацярына Дубіна, Сяргей Тумель, Віктар Мілашэвіч.

**Якімовіч і Тумель – фельчар і кіроўца «хуткай дапамогі». Яны ўспамінаюць, што бачылі, як Гасцінец перакрылі, але абурэння не было. Абодва сказалі, што, хутчэй за ўсё, ставіліся да гэтага нейтральна.**

Тумель расказаў, што следчы звязаўся з ім, калі ён быў на самаізаляцыі праз каронавірус. Тумель папрасіў следчага, каб той па яго просьбе ўзяў паказанні калегі, бо яны павінны быць падобныя. Ліст з паказаннямі Тумель падпісаў у машыне следчага, іх загадзя не чытаў.

Дубіна таксама была падчас перакрыцця Гасцінца ў сваім аўтамабілі. Кажа, што ў яе ніякіх прэтэнзій да людзей не было. На яе меркаванне, яны выказвалі свае погляды.

**Мілашэвіч кіраваў грамадскім аўтобусам. Пасажыры не выказалі сваёй нязгоды, што аўтобус затрымаўся. Сам Мілашэвіч нейтральна адрэагаваў на выхад людзей.**

21 лістапада Герасімюк спяшалася на сустрэчу, у выніку пад'ехала пад банер. Як сцвярджае, яго ніхто не падымаў. Упэўнілася, што нікога не зачэпіць, праехала пад расцяжкай. Пасля сустрэчы патэлефанавала на лінію 102.

**– Так, я тэлефанавала на лінію 102. Спынілася каля «Гастранома», патэлефанавала. Чаму не раней? Таму што была за рулём.**

## Паказанні сведак

**Аляксандр Францкевіч** – міліцыянер патрульна-паставой службы Маладзечанскага РАУС. Падчас інструктажу на наступны дзень пасля акцыі далі арыенціроўку. У гэты дзень Францкевіч знаходзіўся ў аўтапатрулі.

**Ля Чырвонага касцёла па радыёсувязі паведамілі, што там ідуць падобныя да арыенціроўкі мужчыны. Іх затрымалі ў дварах ля вуліцы Магістральнай. Францкевіч не памятае, каго дакладна затрымаў. Відэа затрымання бачыў, але не памятае, хто яго здымаў.**

**Мікалай Адашкевіч** – кіроўца аўтобуснага парка. Ён не бачыў моманту акцыі, бо ехаў у тым месцы крыху пазней пасля падзей. У той дзень быў на маршруце №9. Скрыжаванне Вялікі Гасцінец – Багдана Хмяльніцкага праехаў без праблем.

**Марына Саладоўнікава** – маці абвінавачанага – прыйшла ў зал пасяджэння з паперкай. Яна падышла да трыбуны і адразу зачытала, што скарыстаецца артыкулам 27 Канстытуцыі, сведчыць супраць сына не будзе.

**Вікторыя Сідаровіч** – дачка Ігара Сідаровіча і сястра Сяргея Сідаровіча. У той дзень была на працы ў школе. Ёй даслалі фотаздымак акцыі, яна яе рэдагавала. Вікторыя не пазнала нікога на ім. Сідаровіч заўважыла, што ў яе брата ёсць псіхічнае расстройства, яму неабходны курс лячэння. Аб гэтым жа казаў сам Сяргей Сідаровіч, калі даваў паказанні.

**Аляксандр Кушаль** – камандзір роты патрульна-паставой службы Маладзечанскага РАУС. 22 лістапада заступіў на службу па ахове грамадскага парадку. На інструктажы расказалі пра перакрыццё Вялікага Гасцінца днём раней. Падчас службы ў радыёэфіры паведамілі пра мужчын, якія былі падобныя па прыкметах да тых, хто перакрыў вуліцу. Кушаль не памятае, каго з абвінавачаных затрымаў.

– Не памятаю, як рабілі відэазапіс затрымання. Але ў інтэрнэце відэа ёсць, я яго глядзеў, значыць, відэафіксацыя была. Не ведаю, хто рабіў відэа. Не гатовы зараз адказаць.

Дзяржаўны абвінаваўца Пяркоўскі зачытаў допісы з тэлеграм-чата, дзе абвінавачаныя абмяркоўвалі правядзенне акцыі, што пісаць на банеры, дамаўляліся пра сустрэчы. Там ж планавалася правесці яшчэ адну акцыю. Над справай працавала следчая група з трох следчых Маладзечанскага РАСК.

Адвакаты звярталі ўвагу суда, што ў матэрыялах справы ёсць недакладнасці ў дакументах (дзесьці адсутнічаюць штампы і нумары выходнай карэспандэнцыі, некаторыя недакладна агучваў дзяржабвінаваўца).

У судзе дэманстравалі рэчавыя доказы: балончыкі з фарбай, банер, мабільныя тэлефоны і флэшку. Сярод доказаў былі аўдыёзапісы гутарак міліцыянераў з Сяргеем Сідаровічам і Элінай Карыцькай, відэа з камеры банка на скрыжаванне. Уключалі званок пацярпелай Герасімюк у міліцыю: «Тут гэтыя бел-чырвоныя перакрылі дарогу са сцягамі сваімі!».

Суддзя Паляшчук адхіліла напрыканцы судовага следства два хадайніцтвы: аб паўторнай псіхічнай экспертызе Сяргея Сідаровіча і каб выключыць пацярпелых з працэсу, бо яны такімі не з'яўляюцца на думку абаронцаў.

Дзяржаўны абвінаваўца Пяркоўскі запатрабаваў для Карабейніка, Саладоўнікава, Сяргея і Ігара Сідаровічаў па 1 годзе і 6 месяцах абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову. Для Карыцькі і Задорскай – 1 год без накіравання.

Саладоўнікаў адмовіўся ад апошняга слова. Карабейнік прасіў не прызначаць пакаранне абмежаваннем волі. Карыцька, Сідаровіч-малодшы і Задорская прасілі суд вызваліць Саладоўнікава і Карабейніка з-пад варты.

## Прысуды

Дзмітрыю Карабейніку, Рыгору Саладоўнікаву, Сяргею Сідаровічу і Эліне Карыцьцы прысудзілі па 1 году і 6 месяцаў абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову («хімія»). Ганне Задорскай і Ігару Сідаровічу – штрафы.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# У Маладзечне пройдзе міжнародны турнір па баскетболе сярод жаночых клубаў

**У Маладзечне ўпершыню пройдзе Фінал чатырох Еўрапейскай жаночай лігі па баскетболе. Раней арганізатары міжнароднага турніру аддавалі перавагу замежным гарадам – Рызе, Брно, Растову, Кошыцэ.**




У Фінале чатырох згуляе і беларуская каманда «Гарызонт».

Фота Наталлі ДАБРЫЯН.

### Выпадковы ўдзел беларусак і выбар Маладзечна

У Фінале чатырох павінны былі згуляць славацкія каманды «Кошыцэ» і «П'ешцяны», аднак праз каронавірус іх месцы занялі беларускі «Гарызонт» і расійская «Ніка». «Гарызонт» і «Ніка» павінны былі згуляць з прадстаўніцамі славацкага баскетбола ў чвэрцьфінале.

**Каманды ўпершыню згуляюць у Фінале чатырох гэтага турніру. Гэта тычыцца і ўкраінскага «Праметэя». «ТТТ-Рыга» згуляе ў Фінале чатырох пяты раз запар, і, хутчэй за ўсё, стане пераможцам.**

Напрыканцы сакавіка стала вядома, што Фінал чатырох вырашылі правесці ў Беларусі. Арганізатары абралі ў якасці гаспадара турніру Маладзечна.

### «Гарызонт» – лепшая каманда краіны з галоўнымі зоркамі баскетбола

«Гарызонт» упершыню будзе ўдзельнічаць у Фінале чатырох. Раней каманда вельмі няўдала праводзіла сезон: не даходзіла да плэй-оф ці прайгравала на гэтай стадыі.

У гэтым годзе галоўны трэнер «Гарызонта» (і нацыянальнай зборнай Беларусі) **Наталля Трафімава** падабрала амаль ідэальны склад. **Юлія Рыцікава** з досведам, родам са Смаргоні, шматразовая лепшая баскетбалістка Беларусі **Настасся Верамеенка**, легіянеры **Ірэна Уранчыч** і **Адрыян Уэб**. У складзе прысутнічаюць перспектыўныя форварды **Яна Лябедзіч**, **Яна Захарэвіч**, **Яніна Інкіна**.

У нацыянальным чэмпіянаце «Гарызонт» займае першае месца і прэтэндуе на чэмпіёнства. У міжнародных турнірах сітуацыя крыху іншая, таму калі Трафімавай атрымаецца інтэграваць маладых баскетбалістак у гульню, то ў Фінале чатырох можна будзе пабачыць беларускую каманду.

### Што гэта за турнір

Еўрапейская жаночая баскетбольная ліга (ЕЖБЛ) – рэгіянальная баскетбольная ліга сярод прафесійных жаночых клубаў. У турніры выступаюць каманды з Беларусі, Чэхіі, Эстоніі, Венгрыі, Казахстана, Латвіі, Лівіі, Літвы, Нідэрландаў, Польшчы, Расіі, Славакіі, Швецыі, Украіны ды Турцыі.

Спаборніцтвы праходзяць з 2015 года. Раней называліся Усходнееўрапейскай жаночай баскетбольнай лігай, у якой выступалі клубы выключна з Усходняй Еўропы (Беларусь, Эстонія, Казахстан, Латвія, Літва і Польшча). Пасля геаграфія турніру пачала пашырацца, турнір займеў цяперашнюю назву.

**Апошнія гады ў спаборніцтвах удзельнічаюць па 16 камандаў з 10 еўрапейскіх краін.**

Фармат лігі прадугледжвае правядзенне рэгулярнага сезона. Ён дзеліцца на тры этапы, кожны з іх праходзіць у розных краінах. Гэта было зроблена для таго, каб клубы выдаткоўвалі менш сродкаў на пражыванне і пераезды. Лепшыя каманды па выніках рэгулярнага сезона сустракаюцца ў плэй-оф, а чацвёрка гуляе так званы Фінал чатырох.

Усяго адбылося чатыры Фіналы чатырох. «ТТТ-Рыга» і «Гуд Анджэлс Кошыцэ» выйгравалі іх па два разы. Беларускія каманды штогод удзельнічаюць у розыгрышы, а лепшым вынікам сталі сярэбраныя медалі «Цмокі-Мінск» у сезоне-2018/19. Фінал чатырох у мінулым годзе скасавалі праз пандэмію каронавіруса.

### 3 красавіка:

**13:00** – «Гарызонт» супраць «Праметэя»

**15:45** – «Ніка» супраць «ТТТ-Рыга»

4 красавіка пройдуць матчы за трэцяе і першае месцы. У 11:00 адбудзецца сустрэча за бронзавыя медалі, за чэмпіёнства гульня пройдзе ў 13:30.

**Настасся УТКІНА.**

## ФК «Маладзечна» прайграў у двух спарынгах

ФК «Маладзечна» правёў дзве таварыскія сустрэчы 27 сакавіка. Маладзечанская каманда згуляла на стадыёне ў Чысці супраць дзвюх камандаў – «Крумкачоў» і «Юні Мінск».

«Крумкачы» – уладальнік бронзавых медалёў у мінулым сезоне ў першай лізе, «Юні» – уладальнік бронзавых узнагарод у АФЛ.

Маладзечанцы завяршылі два матчы без забітых мячоў. «Крумкачам» прайгралі з лікам 0:4, а з «Юні» згулялі ўнічыю – 0:0.

**Настасся УТКІНА.**

## Беларусь буйна прайграла Грузіі

29 сакавіка моладзевая зборная Беларусі па футболе правяла таварыскую гульню супраць аднагодак з Грузіі.

Гульня завяршылася буйным паражэннем беларусаў – 1:4. Гол за зборную Беларусі забіў **Супрановіч**.

**Паводле «Трыбуны».**

## Астраўчанін стаў прызёрам чэмпіянату Беларусі па боксе

Астраўчанін **Кірыл Рагавенка** стаў сярэбраным прызёрам першынства Беларусі па боксе сярод юніёраў 2005-2006 гадоў нараджэння.

Спаборніцтвы прайшлі ў Полацку. На турнір у Віцебскую вобласць паехалі два прадстаўнікі Астравецкай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву. **Арсень Мялешка** прайграў у першым жа паядынку. А **Кірыл Рагавенка** выйграў тры баі і саступіў толькі ў фінале.

**Паводле ostrovets.by.**

## ФК «Астравец» перамог у таварыскай гульні

ФК «Астравец» працягвае рыхтавацца да адкрыцця сезона. На мінулых выхадных астраўчане сустрэліся з рагачоўскім «Макслайнам».

**Уладзіслаў Зубрыцкі** забіў першы гол праз дзесяць хвілін пасля пачатку матча, тым самым вывеў «Астравец» наперад у сустрэчы. Госці адказалі дакладным ударам на 27-й хвіліне. Ужо праз пяць хвілін **Арцём Толкін** зноў вывеў астравецкую каманду наперад.

Гульня скончылася на карысць «Астраўца» – 2:1.

**Паводле ostrovets.by.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

3. Адкрыты прылавак для гандлю на вуліцы.
4. Сумесная дзейнасць пры выкананні чаго-небудзь, супрацоўніцтва.
7. Баляслаў Прус піша, што ў параднай дома стаяла статуя німфы з жоўтым тварам, зялёнымі грудзьмі, блакітнымі нагамі і малінавым гладышом над галавой. Назавіце, чым адметныя вокны, з-за чаго і з’явілася такая разнастайнасць колераў.
8. Каша з круп, якую любяць есці на сняданак.
9. Воін прывілеяванай рэгулярнай пяхоты ў султанскай Турцыі.
10. Страва ў выглядзе дробных клёцак з мукі або дзёртай бульбы, прыгатаваных на булёне ці малацэ.
13. Перыядычнае, звычайна штодзённае, друкаванае выданне інфармацыйнага характару, а таксама экзэмпляр гэтага выдання.
16. Прымяненне фізічнай сілы ў адносінах да каго-небудзь, здзек.
18. Уступная, пачатковая частка чаго-небудзь, уступ.
20. Памылка ў пісьмовым тэксце, зробленая праз няўважлівасць, рассеянасць.
21. Прылада для курэння, якая складаецца з цыбука і галоўкі, пустой унутры, у якую насыпаюць тытунь.
22. Складаны зычны гук, які ўтвараецца цесным злучэннем зычнага выбухнога з зычным фрыкатыўным таго самага месца ўтварэння, напрыклад: беларускае «ц» з «тс», «ч» з «тш».
23. Замужняя жанчына ў адносінах да свайго мужа.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Хімічны элемент, цяжкі коўкі метал серабрыстага колеру, які ў спалучэнні з вугляродам утварае чыгун і сталь.
2. Забаўная выхадка, востры дасціпны выраз.
5. Орган дыхання ў чалавека і пазваночных жывёл, размешчаны ў грудной поласці.
6. Раздзел кнігі, артыкула, абазначаны нумарацыяй або загалоўкам.
11. Горад, дзе ў кватэры Змітрака Бядулі ў 1915 годзе жыў Максім Багдановіч.
12. Колькасць часу, гадоў, пражытых ад нараджэння, пачатку росту; перыяд, ступень у развіцці, росце чалавека, жывёлы, расліны.
14. Салодкая студзяністая страва, якая гатуецца з фруктова-ягадных сокаў, малака і іншых прадуктаў з дабаўленнем жэлаціну.
15. Род твораў у галіне якога-небудзь мастацтва, які характарызуецца пэўнымі ўласцівасцямі, сюжэтнымі і стылістычнымі прыкметамі.
17. Аптычная з’ява ў форме каляровага бліскучага круга вакол Сонца або Месяца, якая ўтвараецца ў выніку пераламлення святла ў ледзяных крышталіках верхніх слаёў атмасферы.
18. Месца, праз якое трапляюць унутр.
19. Прыстасаванне з тонкага дроту або пластмасы для заколвання валасоў у прычосцы.
21. Той, хто займаецца лыжным спортам.
22. Жаданне задаволіць свае патрэбы, імкненні, схільнасці, захапленні.
24. Прозвішча аўтара слоў песні «Бывайце здаровы», музыку да якой напісаў Ісак Любан.
25. Дзеянне, накіраванае на дасягненне пэўнай мэты.

## Адказы на крыжаванку з №13

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Запруда. 4. Працэс. 5. Павага. 6. Напралом. 7. Сабака. 10. Хімія. 11. Зашпіліць. 12. Тунэль. 17. Нямы. 19. Шар. 20. Павідла. 21. Зарад. 22. Шыхта. 23. Пагром.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Заслуга. 2. Яднацца. 6. Нахабны. 7. Смоліч. 8. Яслі. 9. Нарада. 13. Яшчэ. 14. Шыпець. 15. Цуглі. 16. Здзівіць. 17. Набор. 18. Пераход. 22. Штанга. 24. Леў.

## ГАРАСКОП НА 2-8 КРАСАВІКА

**АВЕН.** Вам захочацца ўсё паспрабаваць, пра ўсё даведацца. Патрэба пашырыць круг зносін, завязаць новыя сувязі прынясе добры вынік. Але на хвалі энтузіязму не забывайце пра абмежаванні каранціну.

**ЦЯЛЕЦ.** Больш размаўляйце, прымайце ўдзел у сустрэчах, у тым ліку анлайнавых, хадзіце ў госці. Хтосьці акажа вам важную паслугу або дасць параду. Цяпер вы на піку папулярнасці і можаце разлічваць на шанцаванне.

**БЛІЗНЯТЫ.** Рана раніцай адпраўляйце важныя лісты, асабістага характару ў тым ліку. Аўторак і сераду прысвяціце працоўным пытанням, нарадам з партнёрамі. Інтуіцыя прывядзе вас у тое месца, дзе вы атрымаеце нешта карыснае.

**РАК.** У панядзелак можна рабіць буйныя пакупкі ў дом, аказваць дапамогу блізкім, ладзіць сямейныя мерапрыемствы. У аўторак і сераду вы будзеце адчувальныя да прыгожага. Можна займацца творчасцю, вывучаць чужы досвед Добрыя дні для працы з раслінамі.

**ЛЕЎ.** Вы з поспехам будзеце пераконваць людзей у сваёй праваце. Начальству варта адпраўляць вас на перамовы і ў камандзіроўкі. Панядзелак лепшы дзень для гэтай мэты. У аўторак і сераду ў сямейных пытаннях пажадана атрымаць падтрымку другой паловы.

**ДЗЕВА.** Верагодны падман і інтрыгі, па-майстэрску сплеценыя нядобразычліўцамі. Паспрабуйце ўстрымацца ад непатрэбных кантактаў, а патрэбныя адкладзіце да серады. У сераду і чацвер можна ўзяць крэдыт у банку, але не давайце грошы ў доўг.

**ШАЛІ.** Можна займацца рамонтам кухні або ваннай, купляць новае абсталяванне і сантэхніку. Серада – спрыяльны дзень для вырашэння фінансавых пытанняў. У другой палове тыдня вы не адмовіце сабе ў жаданні рызыкнуць, калі мэта ўжо занадта прывабная.

**СКАРПІЁН.** У аўторак можна абмяркоўваць у сям’і грашовыя пытанні, але да тэмы спадчыны патрэбны асцярожны падыход. У асабістым жыцці не дазваляйце мінулым адносінам уплываць на сённяшнія, каб не страціць усё адразу. Для каханых – менш слоў, больш падарункаў, сюрпрызаў.

**СТРАЛЕЦ.** У асабістым жыцці магчымыя вялікія перамены. Час агучваць свае рашэнні. У сераду не дазваляйце эмоцыям умешвацца ў працоўныя пытанні. Не варта абмяркоўваць важныя справы ў нефармальнай абстаноўцы.

**КАЗЯРОГ.** Захоўвайце спакой, нават калі вас правакуюць або падштурхоўваюць нешта неадкладна пачаць або з кімсьці разабрацца. Не імкніцеся здзівіць гасцей кулінарнымі вынаходствамі. Галоўнае – усіх выслухаць.

**ВАДАЛЕЙ.** Вам будзе шанцаваць у любові і рамантыцы. З аўторка па чацвер праяўляйце ініцыятыву, калі вы знаўца сваёй справы. Гэта дапаможа ў кар’ерных пытаннях. Ад выхадных можна чакаць, хутчэй, карысці, чым радасці.

**РЫБЫ.** У панядзелак вырашайце складаныя пытанні. У вас будзе добра працаваць інтуіцыя, і вы здолееце ўбачыць падводныя камяні там, дзе ад вас нешта спрабуюць утаіць.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 8 | | 3 | 5 | | |
| | | | 5 | 6 | 9 | | | 4 |
| 8 | | | 2 | | 1 | | | |
| 9 | | | 6 | | 2 | | | |
| 5 | | | | 9 | 8 | 1 | | |
| 2 | | 7 | | | | | | 6 |
| | | 2 | 9 | | | | 4 | 7 |
| 7 | 4 | | 3 | | | | | |
| | | | 4 | | | 3 | | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by




## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Ёсць тры стадыі беднасці беларусаў:
1. Беларусы бедныя.
2. Беларусы вельмі бедныя.
3. Беларусы ідуць мяняць долары.

***

Аднойчы беларус знайшоў чароўную бульбіну, і яна сказала яму: «Загадай любое запаветнае жаданне, тады зазнаеш самае вялікае шчасце ў сусвеце». Ён усміхнуўся і адказаў: «Мне няма чаго хацець, я ўжо беларус». А бульбіну з цыбуляй пасмажыў.

***

Цярпенне і праца, усё… Ты – беларус.

***

Анекдот, які быў актуальны да дэнамінацыі. Амерыканец марыць – зарабіць мільён. Рускі марыць – патраціць мільён. А мара беларуса – толькі б мільёна хапіла ў краме разлічыцца.

***

Спрачаюцца амерыканец і беларус, работнікі буйнога прадпрыемства.

– Вось у нас, у Амерыцы, каб стаць начальнікам аддзела, трэба скончыць каледж.

– Здзівіў! Ды ў нас на заводзе ўсе прыбіральшчыцы з вышэйшай адукацыяй!



## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці заўважылі павышэнне цэн?



**Аляксандр:**
– Заўважыў – на віно. Усё ж падаражэла. Я так скажу, я – пенсіянер, пенсію трохі павысілі, але шмат што падаражэла. Тое, што яе павысілі, гэта ж не хопіць, каб пражыць.



**Іван:**
– На ўсё: паліва, прадукты, камунальныя плацяжы.



**Леакадзія:**
– Кожны дзень на ўсё павышаюць. Перажываю, што аплата за кватэру падаражэла. Кажуць, што яшчэ падрасце. Ці не дойдзе, каб усю пенсію аддаць? У крамах мяса ляжыць, псуецца, а дарагое! Думаю, мой любімы Лукашэнка і не ведае гэтага, я так перажываю, грудзьмі за яго стаю.



**Нікадзім:**
– Ведаеце, ёсць цэнаўтварэнне, хай яны і думаюць. Неяк розніцы і няма.



**Аляксандр:**
– На хлеб, на батон, на малочную прадукцыю цана падымаецца вельмі хутка. На цыгарэты некаторыя таксама цана паднялася.



**Галіна:**
– Чамусьці здаецца, што цана на кватэру паднялася. А так падаражэлі тварог, малако, хлеб.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

● Якую працу прапануюць арганізацыі Ашмянаў, Смаргоні і Астраўца. І дзе мястэчкоўцы могуць зарабіць тысячу рублёў, а можа, і больш.

## 3 красавіка, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 4-5 м/с




Усход 6.39
Захад 19.52
Даўжыня дня 13.13

Усход 2.42
Захад 9.40
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -9,1°C у 2004 годзе
Максімальная тэмпература +16,7°C у 2001 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,7 мм у 2017 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Грэйцеся вясновым сонейкам і навінамі «Рэгіянальнай газеты»!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень дадаведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы. Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальная газета», якая з'явіцца. Або адсканўйце QR-код.

У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.19 / 3.86 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання),
- на квартал – 15.57/11.58.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16.99 / 15.39,
- на квартал – 50.97 / 46.17.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№14 (1353) 2.04.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 544. Падпісана ў друк у 9.00 1.04.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.